# Беларускі калекцыянер

№2 (17) кастрычнік 1998г. Кошт свабодны


# БЕЛАРУСКІЯ ФАЛЬСІФІКАТЫ

Выраб разнастайных фантастычных наддруковак на марках, падробка пад "мясцовыя выпускі" на Беларусі, на шчасце, не атрымала такі шырокі размах, як гэта здарылася ў іншых краінах СНД. Аднак, выпадкі такія вядомы і калекцыянерам неабходна ведаць пра іх.

Цяжкасці, якія перажывала пошта нашай краіны з прычыны часта меняючыхся тарыфаў і адсутнасцю патрэбных наміналаў марак у 1991-1993 гадах не маглі не выклікаць з'яўлення фальшывых выданняў.

Тым больш, што ў іншых былых рэспубліках СССР была наладжана "вытворчасць мясцовых выпускаў" і як гаворыцца дурны прыклад заразлівы. Вось і з'явіліся і на Беларусі свае "мясцовыя выпускі". Праўда, хачу яшчэ раз падкрэсліць, наклад гэтых, выпускаў на шчасця, невялікі.

Выданы гэтыя фальшывыя выпускі па розным прычынам і пад рознымі падставамі — адны з іх на шкоду пошце, другія — на шкоду філатэлістам, трэція — каб пакінуць свой "гістарычны след" у філатэліі. Стваральнікаў фальшывак не хвалюе прэстыж дзяржавы, прэстыж беларускай філатэліі. Неафіцыйныя выданні знакаў паштовай аплаты з'яўляюцца фальсіфікаванымі.Так што ж ўяўляюць з сябе гэтыя фальшывыя выпускі, запоўніўшыя клясяры філатэлістаў?

**1. г.Менск.**

а) 19 верасня 1991 года Вярхоўным Саветам рэспублікі быў прыняты закон пра пераіменаванне БССР у Рэспубліку Беларусь.Літаральна праз некалькі дзён з'явіліся прымітыўныя наддрукоўкі, выраблены відаць на прынтэры. Тэкст з трох радкоў "Беларусь. 19.09.1991. Пошта" надрукаваны чорным колерам. У верхні і ніжні частцы марак — гарызантальная палоска з літар "х".



Магчыма пра гэтыя прымітыўныя падробкі ня трэба б было прагадваць, калі б не запыты філатэлістаў з СНД і далёкага замежжа пра "першы мясцовы выпуск" на Беларусі і каб не карэспандэнцыя, аплачаная гэтымі "новымі маркамі" і прайшоўшая пошту з Менску ў верасні — кастрычніку 1991 года. Лісты, аплачаныя гэтымі маркамі, былі прыняты поштай таму, што дзялкі ад філатэліі, вырашыўшы пагрэць рукі на вырабе фальшывак, дзейнічалі ўпэўнена, скарыстаўшы блытаніну на пошце, адсутнасць марак, некампетэнтнасць асобных работнікаў пошты і змену палітычных абставін.

б) Праз некаторы час з'явілася новая наддрукоўка феялетавага колеру на той жа марцы СССР (паштовы ганец, 1 кап. 1988г.) у два радкі "Беларусь, Мінск". Наддрукоўка зроблена вельмі маленькімі літарамі. Маркі з гэтай наддрукоўкай вядомы толькі ў чыстым выглядзе. Есць з перавернутай наддрукоўкай.

в)Другога лютага 1994 года газета "Звязда" змясціла артыкул з наступным тэкстам: "У Менску з'явіліся новыя маркі. На старой стандартнай мініяцюры блакітнага колеру вартасцю 30 капеек забіта старая і надрукавана новая цана — 300 рублёў. Як паведамілі карэспандэнту РІДа ў Міністэрстве сувязі і інфарматыкі рэспублікі — гэта падробка."

Усе гэтыя тры выгляды менскіх фальсіфікатаў шырокага распаўсюджвання сярод філатэлістаў краіны не атрымалі. Высветліць месца вырабу гэтых "марак" не атрымалася.

**2. г.Стоўбцы. Менская вобласць.**

У ліпені 1993 года на Беларусі была запушчана ў абарачэнне самая буйная партыя фальшывых марак у Стаўбцоўскім раёне.

Ручная наддрукоўка новых наміналаў на стандартных марках СССР і адным выпуску маркі Рэспублікі Беларусь штэмпелем, знятым з франкіровачнай машыны. Такімі штэмпелямі на той час дзяржаўная пошта праводзіла пераацэнку марак на паштовых канвертах, выданых Міністэрствам сувязі СССР. Выкарыстоўваліся два выгляду штэмпеляў — адзін з тэкстам "Почта / СССР", другі — "Почта/Пошта".

Вядомы дзевяць выглядаў марак пераацэненых гэтымі штэмпелямі:

1. 35 кап. на 3 кап. (СССР.1988г.)
2. 50 кап. на 1 кап. (СССР.1988г.)
3. 95 кап. на 2 кап. (СССР.1991г.)
4. 1 руб 20 кап. на 1 кап. (СССР.1988г.)
5. 1 руб. 20 кап. на 15 кап.(СССР.1976г.)
6. 2 руб. 45 кап. на 1 кап. (СССР.1988г.)
7. 2 руб. 45 кап. на 2 кап. (СССР.1991г.)
8. 2 руб. 45 кап. на 15 кап.(СССР.1976г.)
9. 2 руб. 45 кап. на 30 кап.(РБ.1992г.)

Была выраблена і дзесятая "марка". Яна ўяўляе з сябе беззубцовы прастакутнік ружовай паперы з адбітым штэмпелем з тэкстам "Почта/Пошта" і наміналам 95 капеек.

Па звестках, якія мае праўленне Беларускага саюза філатэлістаў, гэта найбольш буйная партыя марак, выраблены саматужным чынам. Лістоў з такімі маркамі было адпраўлена па пошце 600-800 паасобнікаў.Фальсіфікаты былі выраблены ў Менску, імі загадзя былі афранкіраваны лісты. Затым на кожнай чугуначнай станцыі Стаўбцоўскага раёна — п.Энэргетыкаў, Негарэлае, Коласава, Стоўбцы — канверты з наклеянымі фальшывымі маркамі і маркамі дзяржаўнай пошты былі ўкара-

(Працяг на 2 стар.)



нены ў паштовы ўжытак. Спалучэнне фальшывак і марак дзяржпошты, на думку адпраўіцеляў, не павінна было выклікаць падазрэння ў працаўнікоў пошты да невядомых марак. У самiх Стоўбцах у паштовы ўжытак была запушчана буйная партыя лістоў у Менск і розныя месцы СНД. Адпаведная аперацыя была праведзена фальсіфікатарамі і на паштовых аддзяленнях, размешчаных ў зоне аўтобусных маршрутаў раёна. Так з'явіліся лісты з Новага Свержаня, Засулья і іншых населеных пунктаў.

У паштовым ужытку фальшыўкі былі нядоўга, амаль усе прайшоўшыя пошту канверты падпісаны адным почыркам і адпраўлены па адрасах у час заезду на пошты раёну ў прамежак некалькі дзён. З Н.Свержаня лісты адпраўлены 04.07.93г., з п.Энэргетыкаў 04.07.93г., з Стаўбцоў 23-28.07.93г.і г.д. У невялікай колькасці падобная аперацыя была праведзена ў студзені 1994 года. Хачу яшчэ раз падкрэсліць, што ўсе адрасы напісаны адным почыркам на аднаго атрымальніка. Адрас жа адпраўшчыка таксама адзін – назва населеннага пункта адпраўлення і "да запытання". Рассылка чыстых марак і карэспандэнцыі, прайшоўшых пошту з гэтымі маркамі замежным філатэлістам і нават фірмам суправаджалася "гарантыйным лістом" так званых стаўбцоўскіх правізорый (мясцовага выпуску).

**3. г.Заслаўль, Менская вобласць.**

Наддрукоўка чырвонай бліскучай фарбай падоўжанага пяцікутніка з надпісам у сярэдзіне ў два радкі "1/руб." на марках СССР 1 кап. №4733 і 10 кап. №6149. Сустракаюцца ў перыяд красавік – травень 1993 года на простай і заказной карэспандэнцыі, адпраўленай з г.Заслаўля. Выраблены ў Менску. Амаль усе наддрукоўкі маюць хібы,





разлівы фарбы, зроблены вельмі неахайна. Маркі вядомы ў чыстым выглядзе. Вялікага распаўсюджвання не атрымалі.

**4. г.Лунінец, Брэсцкая вобласць.**



Наддрукоўка вялікай лічбы "5" (руб.) фіялетавай масцікай на стандартнай марцы РБ 30 кап. (Пагоня). Па краях наддрукоўкі невыразныя контуры, разлівы фарбы. Сустракаецца на карэспандэнцыі, адпраўленай з снежня 1993 года па студзень 1994 года.

Наклад не высветлены. Звестак пра падобныя фальшывыя наддрукоўкі на марках іншых наміналаў няма.



Есць падставы лічыць, што фальшыўкі выраблены ў Лунінцы.

**5. г.Наваградак, Гродзенская вобласць.**

Наддрукоўка чорным колерам на савецкай стандартнай марцы 1991 года (2 кап. №6298 а) новага наміналу.



Наддрукоўка зроблена тым жа штэмпелем, які выкарыстоўваўся для пераацэнкі савецкіх паштовых канвертаў і канвертаў Рэспублікі Беларусь – падоўжаны васьмікутнік з падоўжаным пяцікутнікам усярэдзіне і двухмоўным надпісам "Почта/Пошта". Намінал пераацэнкі "1 руб.". Марка гэта вядома на філатэлістычнай карэспандэнцыі з траўня па чэрвень 1993 года, а таксама ў невялікай колькасці ў чыстым выглядзе. На руках у філатэлістаў апынуліся ўсяго некалькі лістоў (10-15 асобнікаў), аплачаных гэтай фальшыўкай сумесна з маркамі дзяржаўнай пошты. Наклад малалікі. Фальшыўка выраблена ў Навагрудку.

**6. г.Смаргонь, Гродзенская вобласць.**

Наддрукоўка новага наміналу на стандартных беларускіх марках "Пагоня". Фарба матавая, чорная наддрукоўка з шматлікімі хібамі-недадрукоўкамі асобных дэталяў, лічбаў, заплывы фарбы. Паходжанне гэтых наддрукоўак неўдалося высветліць. Цяжкасць у тым, што гэтыя наддрукоўкі паўтараюць дзяржаўныя – гэта значыць выраблены дзяржаўнай поштай – 15.00 руб. на 0.30 кап.(блакітная), 25.00 руб. на 0.45 кап. (аліўкавая) і на 50.00 на 0.50 кап. (зялёная). Але канфігурацыя лічбаў, іх памеры "смаргонскіх марак" значна адрозніваюцца ад дзяржаўных.

Вядома афіцыйная карэспандэнцыя розных прадпрыемстваў Смаргоні, аплачаная гэтымі маркамі. Менскаму філатэлісту Васільеву Ю.Б. пашчасціла высветліць, што маркі з гэтымі наддрукоўкамі афіцыйна прадаваліся на мясцовым вузле сувязі ў чэрвені – ліпені 1994 года. Але Васільеву не ўдалося высветліць у кіраўніцтва смаргонскай пошты паходжанне гэтых марак. На пытанне – адкуль маркі – адказу не атрымаў. Даводзіцца меркаваць, што адсутнасць марак патрэбных наміналаў на мясцовай пошце вымусіла смаргонскіх паштароў вырабіць наддрукоўку патрэбных наміналаў на месцы. Магчыма нават у мясцовай друкарні. Што і было зроблена.Існуе і другая версія з'яўлення гэтых наклеек на пошце Смаргоні. Магчыма, нехта з фальсіфікатараў прадаў аркушы выраблены наклеек смаргонскай пошце, запэўніўшы паштавікоў, што зрабіў ім прыемнае і прывёз маркі з Менску. Аднак баючыся адказнасці перад вышэйшым кіраўніцтвам за сваю самадзейнасць, факт вырабу наддрукоўак хаваўся. Хаця падобная самадзейнасць у тыя часы была распаўсюджана на асобных вузлах сувязі рэспублікі. Таму менскі



філатэліст не атрымаў адказу на сваё пытанне. Усё гэта яшчэ павінны высветліць бе-







ларускія філатэлісты. Але, на жаль, пакуль такі энтузіяст-даследчык не знайшоўся. Толькі высвятленне гэтага пытання дасць адказ: ці залічаць "смаргонскі выпуск" да дзяржаўных囚 паштовых выпускаў, ці лічыць іх смаргонскімі фальшыўкамі?

**7. г.Скідзель, Гродзенская вобласць.**

Наддрукоўка чырвонага і чорнага колеру "Філвыстаўка", "Прырода і мы", г.Скідзель" на марцы пошты Рэспублікі Беларусь 1994 года – "Лебедзь – шыпун". Маркі з наддрукоўкамі былі выраблены аргкамітэтам філатэлістычнай выставы Скідзель (Беларусь) – Беласток (Польшча) "Прырода і мы", аднак праз тэхнічна неякасныя наддрукоўкі, Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь забараніла іх выкарыстанне. Маркі з гэтай наддрукоўкай не з'яўляюцца фальшыўкамі, але і афіцыйнымі выпускамі іх прызнаць нельга. Выданы ў сакавіку 1995 года.




**8. г.Ворша, Віцебская вобласць.**

У лістападзе 1991 – студзені 1992 года на карэспандэнцыі адпраўленай з Воршы і Мінску з'явілася марка з наддрукоўкай "Беларусь". Марка пошты СССР "50 лет Ф.Скорине", 1988г. Фарба наддрукоўкі матавая, чырвоная наддрукоўка друкарская з некаторымі хібамі, размывы фарбы, падцёкі. Па некаторых звестках такіх наддруковак зроблена каля 700 паасобнікаў. Большасць з іх сустракаецца ў чыстым выглядзе. Некаторая колькасць на карэспандэнцыі з Воршы і ўсяго некалькі асобнікаў на карэспандэнцыі з Менску. Мяркуючы па маючым дадзеным наддрукоўка была выраблена не на шкоду пошце або філатэлістам.



**9. Выпускі іншых гарадоў.**



а) Вядома неапазнаная наддрукоўка чорнага колеру "30.00 руб." на марцы "Пагоня" на афіцыйнай карэспандэнцыі з г.Рэчыцы, Гомельскай вобласці. Паходжанне не высветлена. Сустракаецца рэдка.

б)Вядомы таксама "правізорныя выпускі" на карэспандэнцыі з Клёцку і Мар'інай Горкі, Менскай вобласці. "Правізорыі Мар'інай Горкі" – гэта частка франкіровачнага штэмпеля з наміналам на асобным аркушы паперы і наклеяным на канверт у якасці маркі. Адбіткі штэмпеля чырвонага колеру. "Правізорыі" Клёцка і Мар'інай Горкі вядомы ў 5-6 асобніках на шкоду філатэлістам і пошце.

**10. Марачныя фантазіі.**

Некалькі фальшывых выпускаў нельга аднесці да звычайных падробак мясцовых выданняў.Калі часам фальшыўкі "мясцовых выданняў" у некаторых філатэлістаў выклікаюць сумненне – а можа гэта не фальшыўка, бо выдана быццам на карысць пошце, то паказаныя ніжэй "выданні" не выклікаюць сумненне ў фальшы ў сілу сваёй незвычайнасці.

а)Не думаю, што наддрукоўка "Палевая пошта Беларускага батальёна ў Абхазіі" выклікае сумненне ў тым, што гэта фальшыўка. Месца выдання не вядома.

б)Не высветлена, дзе выпушчына ў свет і гэта нязвычайная серыя марак. На сямі наміналах беларускіх стандартных марак "Пагоня" у квартблоках (0.15; 0.30; 0.50 кап.) і (1.00; 2.00; 3.00; 10.00 руб.) зроблена двайная наддрукоўка – першая чырвоным і блакітным колерам шахматных фігур і ўкраінскага герба "Трызубца", другая – наддрукоўка чорным колерам тэксту і наміналаў "Українська/діаспора/в Беларусі", "10-; 15-; 20-; 25-" (руб.?). Прычым у серыі зроблены свае "рарытэты" – некаторыя наддрукоўкі перавёрнуты. Фантастычны выпуск!






в)А вось яшчэ адзін. На квартблоках беларускіх стандартных марак "Пагоня" наміналам у 2 руб.; 3 руб. зроблена наддрукоўка чорнага колеру найменняў беларускіх гарадоў – Брэст, Слуцк, Клёцк, Нясвіж і Орша. Наддрукоўкі, па ўсяму відаць, зроблены на кампутары. Новыя наміналы па чатыры на квартблоке двух выглядаў – з нулямі і без іх: 180; 280; 600; 1200 і 60.00; 100.00; 180.00; 600.00. Побач з наміналам выява фігуры ці сімвала (?). Паходжанне гэтай серыі не высветлена.
















**11. г.Гродна.**

За рэдкім выключэннем, на тэрыторыі рэспублікі,

**(працяг на 4 стар.)**

нават у перыяд нестачы адзнакаў паштовай аплаты не мелі афіцыйнага паштовага абарачэння маркі дзяржпошліны, разнастайных сяброўскіх складак, маркі для аплаты за карыстанне радыёкропкай. Карэспандэнцыя з такімі маркамі фальсіфікаваная. Хаця маюцца данныя пра тое, што ў адным з вясковых паштовых аддзяленняў Лунінецкага раёну Брэсцкай вобласці некаторы час выкарыстоўваліся радыёмаркі для аплаты выходнай карэспандэнцыі.

Наддрукоўкі чорнага колеру на марках сяброўскіх складак ОСВОДа БССР (10 кап., блакітная). На малюнку наддрукоўкі – герб "Пагоня" і надпіс у тры радкі "Гродна/Беларусь" і паміж імі намінал наддрукоўкі – 30.00; 45.00; 60.00; 300.00; 600.00; 900.00 (руб.). Наклад выпуску не высветлены, як і месца вырабу. На паштовай карэспандэнцыі гэтыя маркі не сустракаюцца, а калі на руках у філатэлістаў і ёсць карэспандэнцыя, аплачаная гэтымі маркамі побач з дзяржаўнымі адзнакамі паштовай аплаты, то гэта карэспандэнцыя фальсіфікаваная.







## Незвычайныя наклейкі – ярлыкі.

У 1991-1992 г.г. у клубах філатэлістаў на абменных сустрэчах з'явіліся незвычайныя наклейкі-ярлыкі для абазначэння замоўнай і каштоўнай карэспандэнцыі. Такія наклейкі-ярлыкі выкарыстоўваліся паштовымі ведамствамі шматлікіх краін свету. Пошта СССР на працягу шмат гадоў выкарыстоўвала не наклейкі, а штэмпелі гумавыя і металёвыя для кляймення замоўнай і каштоўнай карэспандэнцыі. І толькі ў двух гарадах былога СССР выкарыстоўваліся наклейкі – на паштамце Масквы і Ленінграда.

Прапануемыя філатэлістам чорна-белыя наклейкі былі, па-праўдзе, незапытаным вынаходніцтвам для беларускай пошты. Наклейкі былі на беларускай мове. На адных была выява "Пагоні", на іншых – герб горада Мінска. Відаць аўтар-вытворца наклеек падзяліў іх для мясцовай і замежнай карэспандэнцыі. Рамка наклеек складалася з палоскі нацыянальнага арнаменту. Што і казаць – арыгінальнае вынаходніцтва для нашай пошты, якая ў тыя часы перажывала нялепшыя часы. Аднака наклейкі-ярлыкі не былі запытаныя ў вынаходніка поштай. Наклад гэтых выданняў быў вельмі маленькі і застаіся ляжаць у клясерах філатэлістаў у якасці "паштовага кур'ёзу".

**Л.Коласаў. г.Менск.**




# ЯКІ ПОП, ТАКІ І ПРЫХОД

Шчырым беларусам усяго свету добра вядома пра непаважлівыя адносіны прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Александра Лукашэнкі да беларускай мовы. Нават асобныя ягоныя выказванні пра дзяржаўную мову, якая з'яўляецца роднай не толькі для яго, але для значнай мове. За апошнія два гады антыбеларускім урадам Беларусі моцна скарочана фінансаванне народнай адукацыі, амаль усіх беларускіх культурных праграм, беларускамоўных газет і часопісаў. Прымітыўная непісьменнасць ахапіла Беларусь. Нават паштовыя маркі, якія з''ўля-




большасці жыхароў розных нацыянальнасцяў Беларусі, маглі б быць нагодай імпічмента, калі б Белаусь была прававой дзяржавай. З першых дзён праўлення ягоныя чыноўнікі ды розныя шарыкавы распачалі мітуслівую работу па скарачэнню сферы ўжывання беларускай мовы. Значна скарацілася за гэтыя два гады колькасць беларускамоўных вучняў, наклады беларускіх кніг і перыядычных выданняў. Александр Лукашэнка акружыў сябе паочнікамі і рознымі чыноўнікамі, якія не толькі дэманстратыўна не ўжываюць мовы карэннага народа дзяржавы, але і дазваляюць сабе ганебныя выказванні пра беларускую мову, гісторыю, культуру. Беларуская мова з'яўляецца на Беларусі нелюбімай падчарыцай. На Беларусі парушаюцца ўсе нормы дэмакратыі і правы чалавека - беларус не мае магчымасці ў сваёй краіне атрымаць паўнавартнасную адукацыю на роднай

юцца шыльдай любой краіны, пачалі выдавацца з арфаграфічнымі памылкамі. Паштовы блок з (нізкі) серыі "Лекавыя расліны" з арфаграфічнай памылкай паступіў у абарачэнне 15 жніўня 1996 года, але неўзабаве пасля заўвагі пільных менскіх калекцыянераў яго продаж быў спынены. Такім чынам адпаведны блок стаў гістарычным сведкам непісьменнасці лукашэнкаўскага чыноўніцтва і рарытэтам у калекцыянераў Беларусі. Цяжка ўявіць, што такое магло б здарыцца ў Летуве ці Украіне, але на Беларусі, кіраўніцтва якой працягвае мроіць аб аднаўленні Савецкага Саюза і заняло выразную антыбеларускую пазіцыю, такія казусы ў розных сферах культурнага і грамадскага жыцця апошнім часам, на жаль, сустракаецца вельмі часта.

**Уладзімір Вярховіч**

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАМЕЖНАЯ ПОШТА

Каб адзначыць 60-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25 сакавіка, ганаровы грамадзянін БНР сп.Гай дэ Пікарда, юрыст па прафесіі, арганізаваў прыватную юбілейную пошту. Старшыня Рады БНР др.В.Жук-Грышкевіч выдаў 30-га траўня 1978 году ліцэнзію для аперавання "Юбілейнае Пошты БНР 1918-1978г.г."

18 снежня 1978 года Р.Жук-Грышкевіч, сакратар сектару Рады БНР у Канадзе піша ліст да старшыні сектару Рады БНР сп.М.Ганька:

Вельмі паважаны сп.Старшыня!

Як Вам вядома, адным із спосабаў адзначэння 60-х угодкаў БНР было заснаванне Беларускай Замежнай Пошты з галоўнай яе канторай у Лёндане, ў Англіі, БЗП выдала юбілейныя маркі БНР. Некаторыя з іх маюць надпіс: Юбілейная Пошта БНР 1918-1978", некаторыя такога надпісу не маюць. Большую колькасць гэтых марак Старшыня Рады БНР атрымаў на рукі толькі 15 снежня 1978 года. Дзеля таго толькі ўчора й сёння рассылаю іх па ўсіх сэктарах Рады БНР дзеля распаўсюджвання марак сярод беларусаў.




*Юбілейныя маркі Рады БНР. 1978.*

Вам засылаю 90 марак з юбілейным напісам й 125 без такога напісу.( з юбілейным напісам марак ёсць куды меней)

Маркі прадаваць па 20 цэнтаў кожную. Прыход з прадажы марак пойдзе ў Скарб Рады БНР.Калі-б хто быў зацікаўлены адзін аркуш - 50 марак, цана яго была б 8$.

Вось такая цікавая старонка ёсць у гісторыі Беларускай Замежнай пошты. Ці было што-небудзь падобнае зроблена Радай БНР да 80-х угодкаў БНР нам невядома. На Беларусі да гэтай падзеі была зроблена неафіцыйная наддрукоўка. На якой марцы і змест тэксту высветліць не ўдалося.

***Матэрыял узяты з кнігі Раісы Жук-Грышкевіч "Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча", Торонто, Канада.***

# Паштоўкі з Маладэчна

**У гэтым горадзе выпушчыны чатыры цікавыя паштоўкі. Усе яны прысвечаны дзеячам беларускага нацыянальнага руху. На трох з іх мастак Р.Мяжуеў адлюстраваў вобразы Васіля Захаркі, Кастуся Езавітава і Палаты Бадуновай. Мастак Ю. Герасіменка-Жызьнеўскі сваю паштоўку прысвяціў Язэпу Драздовічу. Паштоўкі пабачылі свет дзякуючы выдаўцу М.Казлоўскаму. На адваротным баку кожнай паштоўкі ёсць надпіс: "Кожная купленая паштоўка – гэта ўклад у нацыянальнае Адраджэнне". Паштоўкі маюць памер 14,5 на 10 см.**












# Мясцовыя выпускі беларускіх латарэй

Са старонак зводнага каталогу "Кніга Беларусі" выдавецтва "Беларуская савецкая энцыклапедыя" Мн., 1986г. я даведаўся, што ў цэлым шэрагу беларускіх гарадоў на прыканцы мінулага і пачатку нашага стагоддзя праводзіліся розныя дабрачынныя латарэі.

У Бабруйску 25 траўня 1897 года праводзілася латарэя на карысць бабруйскага аддзялення Таварыства Чырвонага Крыжа.Тамжа 29 траўня 1900 года таксама была разыграна латарэя на карысць мясцовага пажарнага таварыства.

У Магілеве, у тагачасным Мураўёскім садзе, гарадское жаночае дабрачыннае таварыства 4 траўня 1897 года ладзіла латарэю-алегры, прыбытак ад якой пайшоў на дапамогу збяднелым жыхарам горада.

Да нашых дзён дайшла і справаздача пра латарэю, што была праведзена 10 кастрычніка 1910 года ў горадзе Слоніме. Гэта латарэя ладзілася Слонімскім дабрачынным таварыствам. Напэўна, у той час і ў іншых гарадах Беларусі праводзіліся латарэі.Усё гэта патрабуе далейшых пошукаў. Магчыма, нават, што і латарэйныя квіткі захаваліся з тых далёкіх часоў.

З сучасных мясцовых латарэй мне вядомы тры беларускія гарады, дзе гэтыя латарэі праводзіліся. Гэта Маладзечна, Ворша і Светлагорск. У Менску на стадыёне "Дынама" ладзілі у свой час спартовую латарэю, але гэта тэма асобнай гаворкі.

**Ворша.**

Да 925-годдзя горада Аршанскі гарвыканкам праводзіў цэлы шэраг разнастайных мерапрыемстваў, сярод якіх была і святочная латарэя. У латарэі разыгрываліся тавары народнага ўжытку, якія выпускаліся прамысловымі прадпрыемствамі горада. Латарэйны квіток мае памеры 11,5см * 6,5 см.Надпісы зроблены на дзвюх мовах - беларускай і расейскай. На вонкавым баку выява памятнага знака у гонар заснавання Воршы, што месціцца на Аршанскім замчышчы. Ніжэй чырвоная палоска нацыянальнага арнаменту, збоку выява гарадскога гербу.Латарэйныя квіткі былі надрукаваны ў мясцовай друкарні.




**Маладзечна.**




Калекцыя латарэйных квіткоў гэтага горада найбольш багатая. Такіх квіткоў вядома тры. Да 600-х угодкаў з дня заснавання горада. Квіток латарэі, што ладзілася пад час фестываля беларускай песні і паэзіі 1994 года. І квіток латарэі культурных і спартыўных тавараў, тыраж якой адбыўся 18 жніўня 1991 года. Усе квіткі маюць аднолькавыя памеры 12,5*6,5 см. Мова на латарэйных квітках толькі беларуская. Адваротны бок мае адбітак пячаткі гарвыкан-




**Светлогорск**

кама.

Гэты горад таксама да свайго 30-ці гадовага юбілею праводзіў латарэю. Латарэйны квіток мае памеры 16 * 9,5 см. Ладзілася латарэя аддзелам культуры гарвыканкама.Кошт квітка быў 5 рублёў.Тыраж адбыўся 22 верасня 1991 года. Кошт выйгрыша наяўнымі грашыма не выплочваўся.

Вельмі цікавы другі светлагорскі латарэйны квіток. Гэта калядны выпуск-тыраж адбыўся 6 студзеня 1993 года. Кошт




квітка 100 рублёў. На вонкавым баку стылізаваная выява сняжынкі, вакол якой па колу надпіс - уверсе Светлагорск, ніжэй HELMSTEDT. Побач выявы сцягоў Беларусі і Нямеччыны. Прычым беларускі сцяг бел-чырвона-белы. Квіток мае памеры 15*9 см. Мастак Юшпрах.

Цікавы яшчэ адзін факт, звязаны з гэтым латарэйным квітком. Адзін расейскі калега, якому я даслаў гэты квіток, знайшоў на ім аж дзве шасціканцовыя зоркі. Ён вельмі абураўся з гэтага факту.

Адваротны бок латарэйных квіткоў мае адбіткі двух пячатак.Фінансавага аддзелу гарвыканкама і - аддзела культуры, на другім адбітак пячаткі гарвыканкама.

Аўтар будзе ўдзячны за любую дадатковую інфармацыю.

**А. Сярожкін.**



Беларуская ССР была створана 1 студзеня 1919 года. У снежні 1922 года ўвайшла ў склад СССР.У выніку развала Саюза на прыканцы 1991 г. Беларуская ССР ператварылася ў незалежную Рэспубліку Беларусь. Такім чынам гісторыя і эканоміка Беларусі цесна звязана з Расейскай.

У даваенны перыяд на тэрыторыі рэспублікі праводзіліся латарэі, квіткі якіх выпускаліся рознымі грамадскімі і дабрачыннымі ўстановамі. Неабходна адзначыць, што колькасць гэтых латарэй, а так сама іх наклад, значна саступаюць падобным выпускам у РСФСР і Украінскай ССР. Таму латарэйныя квіткі гэтага перыяду сустракаюцца даволі рэдка.

# *Квіткі Грашова-Рэчавай латарэі Міністэрства Фінансаў Беларускай ССР (1958-1991)*

Выпуск латарэйных квіткоў на тэрыторыі СССР аднавіўся ў пасляваенны час з 1956 года. У 1958 гаду была праведзена Грашова-Рэчавая латарэя ва ўсіх саюзных рэспубліках, у тым ліку і ў БССР.Яна праводзілася штогод да самага канца 1991 года. На Беларусі за гэтыя 34 гады было праведзена 279 тыражоў.Усе квіткі друкаваліся на фабрыках Дзяржзнака, на паперы з вадзянымі знакамі. Эмісія гэтых квіткоў праводзілася Міністэрствам Фінансаў Беларускай ССР. З 1992 года - Міністэрства Фінансаў Рэспублікі Беларусь. Было праведзена 6 тыражоў. Друкавання квіткоў праводзілася на тых жа прадпрыемствах Дзяржзнаку.

У Навагоднім выпуску для друку выкарыстоўвалася папера з іншым малюнкам на вадзяным знаку - нацыянальны арнамент.

У 1958г. было праведзена два тыража, квіткі ў якіх выпускаліся наміналам ў 5 рублёў.Па памерах гэтыя квіткі перавышалі ўсе наступныя выпускі. Квіток першага выпуску (14 на 10,4 см) быў шэрага і цёмна-сінега колеру.

Нумар выпуску на самім квітку не быў пазначаны. На латарэйным квітку другога выпуску (12,2 на 8,2см) афарбаваным у светла-зялёны і карычневы колеры, ужо змешчана паказанне на парадкавы нумар гадавога выпуску.У дальнейшым колькасць шматгадовых выпускаў павялічвалася (гл.табл.). У 1959-62г.г.гэта былі ўжо 4 выпускі на год. З 1963 па 1969 год гэта колькасць павялічваецца ад 6 да 12, а з 1970 году ўстаноўліваецца адносна сталое для рэспубліканскіх выпускаў колькасць тыражоў - 9 на год. Гэта сістэма пратрымалася аж да 1991 году, у 1992г. было праведзена 6 тыражоў.З1959 году быў устаноўлен стандартны памер квіткоў - 12 на 7см. і аж да 1991 г. ён заставаўся нязменным. Усе навагоднія (1967 - 1991г.г.) і святочныя (1970 - 1991 г.г.) квіткі выпускаліся наміналам ў 50 капеяк.Квіткі выпуску 1992 г.выпушчаны вартасцю ў 1рубель.

Каляровая гамма квіткоў розных выпускаў аднаго году адрознівалась да самага 1963 г..У 1964 - 69г.г.усе квіткі аднаго году выкананы ў аднымкаляровым рашэнні. З 1970г. на латарэйных квітках змяшчаюцца розныя малюнкі: сімвалы народна-гаспадарчых дасягненняў рэспублікі і віды Менска, Брэсцкай крэпасці: Белавежскай пушчы.

З 1967 г.упершыню з'яўляюцца "Навагоднія" выпускі, а с 1970 г. "Святочныя" прысвечаныя Міжнароднаму жаночаму дню. Гэтыя выпускі зрабілі разнастайнымі вонкавы выгляд штогадовых серый. Ідэя такіх выпускаў прыжылася і яны здзейсняліся да 1992 г.

Ў заканчэнні, хацелася б адзначыць, што калекцыя латарэйных квіткоў БССР, як і астатніх рэспублік, з'яўляецца закончанай тэмай і з'яўляе вялікую

(працяг на стар 8)

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1958 | 1 | 2 | | | | | | | | | | | 2 шт. |
| 1959 | 1 | 2 | 3 | 4 | | | | | | | | | 4 шт. |
| 1960 | 1 | 2 | 3 | 4 | | | | | | | | | 4 шт. |
| 1961 | 1 | 2 | 3 | 4 | | | | | | | | | 4 шт. |
| 1962 | 1 | 2 | 3 | 4 | | | | | | | | | 5 шт. |
| 1963 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | | | | 9 шт. |
| 1964 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | | | 10 шт. |
| 1965 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 12 шт. |
| 1966 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | | | | | | | 6 шт. |
| 1967 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | Н | | | | 9 шт. |
| 1968 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | Н | | | | 9 шт. |
| 1969 | 1 | 2 | 3 | 4 | 4 | 6 | 7 | Н | | | | | 8 шт. |
| 1970 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 6 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1971 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 6 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1972 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1973 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт |
| 1974 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1975 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1976 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1977 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1978 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1979 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1980 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1981 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1982 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1983 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1984 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1985 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1986 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1987 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1988 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1989 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1990 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |
| 1991 | 1 | П | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | Н | | | | 9 шт. |







цікавасць для даследчыкаў. Тэма гэта мала распрацаваная калекцыянерамі і амаль не асветлена ў спецыяльнай літаратуры, яшчэ чакае свайго падрабязнага вывучення. Прыведзеная разгорнутая табліца выпускаў латарэі Міністэрства фінансаў БССР, як мы спадзяемся будзе карысны у практыцы збіральніцтва.

**Батыгаў А.М. Масква**
**"Таганский бонист № 32"**

# Дзяржаўны знак

"Кожны з нас жыве надзеяй растлумачыць уластны знак", - гэтыя словы гурт БОНДА прасыпяваў у тыя часы, калі пошук і тлумачэнне беларускіх Знакаў толькі распачыналіся ў беларускім грамадстве, якое нараджалася.Дзесяць гадоў таму.Сеньня сам гурт стаўся адным са знакаў найноушае гісторыі. Прыблізна столькі ж часу таму запачаткавалася публічная дыскусія аб стварэньні-вяртаньні аднаго з агульнанацыянальных сымбаляў, які стаіць амаль у адным шэрагу з Гербам, Сьцягам і Гімнам. Вядзецца аб беларускай нацыянальнай валюце.

Распачаты за часамі "непарушнага" СССР, пошук імя беларускай валюты мог падацца свайго кшталту інтэлектуальнай гульней. Куна, грыўна, дынар, дукат; пенязьшэлег, грош... Для разменнай манэты прапаноўваліся цікавыя наватворы, кшталту "менкі". Але ў першы перыяд існаваньня незалежнае Рэспублікі Беларусь амаль адразу ў грамадзянаў, незалежна ад іншых палітычных поглядаў, зафіксавалася назва "тулер". Нават сеньня хто-ніхто блытаецца ў пытаньні аб тым, як называюцца нікім ня бачаныя новыя беларускія грошы, завезеныя ў краіну пры ўладзе Кебіча. Чаму-трэба запытацца ў самаго Вячаслава Францавіча. Былы прэм`ер правеў аперацыю з грашыма "бязь лішняга шуму".Тое, што на новых грошах напісана "рубель", а ня "талер" сталася адной зь нямногіх "асабістых перамогаў" Кебіча ў супрацьстаяньні "наступу апазыцыі", якая на той час ужо пасьпела дамагчыся "нацыяналістычных" законаў аб Гербе, Сьцягу і Мове.







Упартасьць "кебічаўцаў" цалкам зразумелая -"талер" гучыць зусім ужо "не паруску". Талер - эўрапейская назва. Аб папулярнасці талера ў эўрапейскай сярэднявечнай Беларусі сьведчыць шматликаьсць варыянтаў назвы манэты: талар, таліар, таляр, талер, талярок (Аархеалёгія і нумізматыка Беларусі, стар.602).

Сёлета спаўняецца 480 гадоў з часу, калі ў Чэхіі быў адбіты першы талер. За кароткі гістарычны перыяд манэта сталася ўніверсальнай эўрапейскай валютай, якая, напрыклад, у Нямеччыне чаканілася рыхтык да 1907 году. Сярэднявечны талер падарыў назву сучаснай універсальнай валюце - даляру.

У Беларусі першы талер быў адбіты ў 1564 годзе на Віленскім манетным двары, апошні - у Горадні ў 1793.Невялікую па колькасьці эмісію Гарадзенскага манэтнага двара толькі ўмоўна можна назваць эканамічным крокам. Перад фатальнай пагрозы згубы дзяржавы нашы продкі пакінулі знак - Незалежнасьць. Роўна празь дзьвесьці гадоў у незалежнай Рэспубліцы Беларусь быў створаны праект новых беларускіх талераў.

Існуе два камплекты эскізаў. Адзін захоўваецца ў архіве Нацбанку, другі - у Зянона Пазьняка. Малюнак, які вы бачыце на ілюстрацыі, быў выканаиы адмыслова для "Нашай Нівы" адным з распрацоўшчыкам праекту мастаком Лявонам Бартлавым.

Мастацкая канцэпцыя палягае ў жаданні спалучыць сучасны эўрапейскі дызайн зь сярэдневечнай беларускай стылітыкай. Колерная аснова - сьветлыя (да белага) адценьні тла на кантрасьце з адценьнямі чырвонага колеру. Сюжэтная канцэпцыя - гістарычная, альбо "гістарычнаасьветніцкая". На банкнотах наміналам ад аднаго, двух, пяці й да тысячы талераў выявы Багдановіча, Братоў Луцкевічаў, Кастуся Каліноўскага, Францішка Скарыны, Льва Сапегі, Кастуся Астроскага і аж да Рагвалода з Рагнедаю. З адваротнага боку месьцяцца выявы з адпаведных гістарычных сюжэтаў.Адразу ж было абумоўлена, што ў поліканфэсіянальнай краіне не варта закранаць кананічныя асобы.

Распрацоўшчыкі талераў пасьпелі дабрацца да лёнданскай фірмы, зь якой Нацбанк вёў перамовы аб друкаванні новай валюты, каб на месцы ўдакладніць нюансы вытворчасьці. Праца над эскізам вялася за рэкордныя для такіх задачаў тэрміны - крыху больш за год. Але кебічаўская каманда пасьпела апярэдзіць "аппазыцыянераў". У Расеі былі надрукаваныя рублі. Знайсьці чалавека, які б мог распавесьці гісторыю стварэння гэтых грошай амаль немагчыма. Хтосьці па-просту маўчыць, а хтосьці, як, на прыклад, былы на той час галавой Нацбанку Станіслаў Багданкевіч, сьцьвярджае, што ня бачыў тыя грошы, бо "меў іншыя задачы". На сёння яму вядома, што на банкнотах выяўленыя "нейкія дзеячы" і "нейкая архітэктура"... "Нейкія дзеячы", "нейкія грошы", "нейкая эканоміка", "нейкая краіна"... Выглядае на тое, што наўрад ці мы калі-небудзь пабачым плён творчасьці невядомых пакуль мастакоў часоў "кебіцкага застою": пэрспэктыва, вартая жалю, хіба з гледзішча калекцыянта.

Што да пэрспэктывы ўвядзення ў абарачэньне жывых беларускіх талераў, аднаго "жыцця надзеяй" недастаткова. Магчыма, ёсьць сэнс ў тым, што сёньня ў нас дастаткова часу, каб удакладніць канцэпцыю валюты незалежнае Беларусі. Зрэшты, на колькі багата часу - залежыць ад нас...

*Севярын Квяткоўскі*
*( "Наша Ніва")*

# БЕЛАРУСКІ КРЫЖ СВЯТОЙ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

З Маладэчна, ад вядомага беларускага бібліяфіла, сапраўднага знаўцы і аматара старых беларускіх выданняў Міхася Казлоўскага мы атрымалі ксеракопію старонкі з кнігі Я.Доўгі "Беларускі нацыянал-фашызм у Латвіі", Мн., 1938г.На гэтай старонцы падаецца змест ліста К.Езавітава да дырэктара тагачаснага Беларускага музею В.Ластоўскага.

Падаём яго змест на мове арыгіналу:

У Б.Д.М. Гэтым маю гонар паведаміць, што ў мяне з 1919 года ёсць колекцыя поўнага абмундыраваньня беларускага войска (Асобны атрад БНР), што фарміравалася со згоды і пры падтрымцы Эстонскага Ўраду.

Колекцыя гэта складаецца з такіх рэчаў:

1. Шапка офіцэра артылерыі з належнымі ёй дзьвюма кукардамі.
2. Шапка офіцэра кавалерыі.
3. Кукарда пяхотнага жаўнера (шапка папсавана мольлю).
4. Рубаха з офіцэрскімі адзнакамі (галуны на каўняры ў розных, залежна ад чыну, комбінацыях).
5. Штаны.
6. Боты.
7. Формены рамень-пояс з наплечным да яго рамнем.
8. Офіцэрскі цясак, які насіўся замест шаблі.
9. Беларускіх колераў цямляк да цесака.
10. Белы эмалёвы з пазалочанымі кантамі ордэнскі шасьціканцовы крыж – "Беларускі Крыж св.Ефрасіньні Полацкай", які быў прыняты ў Асобным Атрадзе, як вышэйшая ўзнагарода "За адвагу" (аналёгічна расійскаму "Георгію").

Усе гэтыя рэчы я хацей бы спрэзэнтаваць Беларускаму Дзяржаўнаму Музэю ў гістарычны аддзел.

Калі не памыляюся, дык толькі адзін я ў свой час паклапаціўся аб набыцці ўсіх гэтых рэчаў дзеля гістарычнай памяткі.

З грам. Прывіт.
К.Езавітаў.

Усё гэта было прынята Ластоўскім і захоўвалася ў музеі. Далейшы лёс гэтых рэчаў невядомы – хутчэй за ўсё яны былі знішчаны ў 30-х гадах разам з Беларускім Дзяржаўным Музеям.

Ціт Мазырэц у сваёй працы "Узнагароды Беларусі", што была змешчана ў часопісе "Спадчына" №5 за 1992 год, №1 за 1993 год факт існавання ордэна "Беларускі Крыж св.Ефрасінні Полацкай" ніяк не прыгадвае. Гэта гаворыць пра тое, што тэма "Узнагароды Беларусі" яшчэ вельмі мала вывучана. І яшчэ менш папулярызавана. Патрэбна асобнае выданне, дзе б былі сабраны выявы беларускіх узнагарод, у тым ліку савецкіх часоў і Рэспублікі Беларусь.

А.С.

# А Б ' Я В Ы




Канверт прысвечаны Ўладзіміру Сямёнавічу Караткевічу

Шукаю маркі БНР, беларускія маркі пачатку стагодзя, каталагі паштовых марак. 211408, г.Полацк, вул.Невельская, д.55, кв.54. Андрэй Новікаў, тэл.4-78-62

Прадаю серыю з 4-х марак Беларускай Народнай Рэспублікі, якая прысвечана 40-м угодкам Слуцкага збройнага чына. Кошт 80000 руб. Алесь Сабаленка, п/с 268, 220131, г.Менск, Беларусь.



# Старонка КГБ



*КГБ цікавіцца "Беларускім калекцыянерам", а беларускія калекцыянеры цікавяцца КГБ. Нам невядома, што там пра нас назбіралі ў КГБ. Але вось з тым, што мы назбіралі пра Камітэт дзяржбяспекі прапануем азнаёміцца нашым чытачам.*

*А калі казаць сур'ёзна,то сёлета беларускія чэкісты адзначылі сваё 80-годдзе. Да гэтай падзеі былі выпушчаны юбілейны медаль і паштовы канверт. Выявы якіх і прапануем.*






ПРАВЛЕНИЕ

Всероссийского Общества Филателистов.

Желая вступить во Всероссийское Общество Филателистов, прошу зачислить меня в действительные члены Общества на основании устава.

С [illegible] уставом, с правами и обязанностями членов Общества [illegible]

Единовременный вступительный взнос, в размере [illegible] рубля, членский взнос в размере Руб. ...... за ...... месяцев, а всего Руб. ...... при сем препровождаю.

[illegible]

На основании раздела IV, § 7 устава Всероссийского Общества Филателистов *) сообщаю следующие сведения:

1) Фамилия
2) Имя и отчество
3) Адрес: город, губерния / улица, № дома и № квартиры
4) Год, месяц и число рождения
5) Где служит или чем занимается
6) Чем занимался до 1917 года или где служил
7) Состоит ли или состоял [illegible]
8) Партийная принадлежность [illegible]
9) Предмет коллекции [illegible]

Подпись.

Город ...... 192 г.

*) [illegible] 1924 г.



Все коллекционеры должны быть членами ВОФ.

[illegible]

1) Правом ведения заграничного обмена
2) [illegible]
3) [illegible]
4) [illegible]

[illegible]

Все коллекционеры должны быть членами ВОФ.

В единении сила.

[illegible]

ДА АРТЫКУЛА "АПАВЯДАЮЦЬ СТАРЫЯ ДАКУМЕНТЫ"

# Апавядаюць старыя дакументы

Нядаўна трапіў мне ў рукі цікавы стары дакумент- анкета ўступаючага ва Ўсерасійскае таварыства філатэлістаў. Анкета датуецца сярэдзінай- канцом 20-х гадоў. І дакумент гэты гістарычны (не пабаюся гэтага азначэння) і месца яму ў музеі філатэліі- расійскай, савецкай, ды і беларускай (калі б быў такі музей).

Прачытаем уважліва гэту анкету. Ужо ва уступе да пытанняў сказана, што на падставе IV раздела § 7 Статута ВОФ, зацверджанага як і палагалася на той час, у студзені 1924 г. НКВД (аб чым у анкеце ёсць зноска) кожны ўступаючы ў ВОФ павінен быў паведаміць пра сябе некаторыя звесткі. Усяго ў анкеце- заяве 9 пытанняў. Першыя 5- звычайныя для падобных нават сённяшніх анкет: прозвішча, імя, дата нараджэння, месца працы, адрас. А вось наступныя пытанні, а іх тры, як мне здаецца маюць яўна не калекцыйнную накіраванасць: чым займаўся да рэвалюцыі, партыйная прыналежнасць да 1917 г. і пасля. Адказы на гэтая пытанні патрэбны былі другому ведамству, але не ВОФ. Вось дзевятае, апошняе пытанне- прадмет калекцыявання патрэбен быў ВОФ. Хоць НКВД і цікавіўся, чым захапляецца той ці іншы філатэліст.

На працягу ўсяго перыяду існавання Ўсерасійскага таварыства філатэлістаў (а затым Ўсесаюзнага) у даваенны час НКВД пастаянна цікавіўся яго дзейнасцю. У 1928 годзе ВЦИК і СНК РСФСР прынялі пастанову "Аб таварыствах і саюзах, не прыследуючых мэт дасягнення прыбытку". Зыходзячы з гэтай пастановы, НКВД зараз жа заняўлося вывучэннем дзейнасці ВОФ, каб "выявіць палітычнае і грамадскае абліччa ВОФ, і мэтазгоднасць яго пераходу на новы Статут". Вынікі працы камісіі НКВД былі станоўчыя. Але ўсё роўна на прыканцы 1930 г. НКВД прымае рашэнне аб ліквідацыі ВОФ і ўсіх яе рэспубліканскіх устаноў, у тым ліку і Беларускае таварыства калекцыянераў (БТК), статут якога быў зацверджаны ў 1929 г. НКВД БССР. І толькі пасля неаднаразовых паседжанняў усялякіх камісій і на ўсіх узроунях і умяшання М.І. Калініна- на Прэзідыуме ВЦИК 20 траўня 1932 г. было вырашана "Прызнаць немэтазгодным ліквідацыю ВОФ". Як паказалі далейшыя падзеі- часова немэтазгодным.

Цікавы і адваротны бок анкеты. Тут цэлае паведамленне пра ВОФ: яго Статут, правы і перавага сяброў ВОФ, аб сяброўскіх складках. Паведамленне канчаецца заклікамі пра тое, што "ўсе калекцыянеры павінны быць сябрамі ВОФ" і што "ў адзінстве сіла".

**Л. Коласаў. 10. 04. 98.**




ПЛАКАТ ЧАСОЎ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Наша Пошта

**А.К. даслаў водгук на артыкул А. Бараноўскага " Графіці на банкнотах" , што быў змешчаны ў 16 нумары нашай газеты. Разам з лістом менчук даслаў і выявы банкнот з рознымі надпісамі. Па яго словах усе гэтыя банкноты трапілі яму ў рукі праз знаёмага касіра. Але змясціць выявы ўсіх банкнот з надпісамі кшталту "Русский язык- мова акупантаў і халуёў і г. д.", у нас няма магчымасці, ды і ня трэба гэта. Павінен прайсці пэўны час, каб асэнсаваць такую з'яву, як графіці на банкнотах.**






**Гомельская гарадская арганізацыя**
**Саюза філатэлістаў Беларусі**
**Гурток "НІЗКА"**

# ПРЭЙСКУРАНТ

## ПАШТОВЫХ МАРАК РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## па ацэнцы MICHEL - 97/98

склаў Лаўрэн Жалезьнякоў
з удзелам сп. Алеся Лізарава і Ігара Нямкевіча
м. Гомель - 1998 г.

| MICHEL | РБ | Дата | намінал | | * | o |
|---|---|---|---|---|---|---|
| NN | NN | вып. | (руб) | | DM | DM |
| 1 | 1 | 1992 г. 20/Mar | 1 | Крыж Ефрасінні Полацкай Шматкаляровая | 1 | 1 |
| 2 | 2 | 20/Apr | 0.2 | Рыгор Шырма Шматкаляровая | 0.25 | 0.25 |
| 3 | 3 | 09/Jun | 2 | Герб Полацка Шматкаляровая | 1.5 | 1 |
| 4 | 4 | 31/Aug | 5 | Сьцяг і карта Рэспублікі Беларусь Шматкаляровая | 3.75 | 3.75 |
| 5 | 5 | 31/Aug | 5 | Герб "Пагоня" Шматкаляровая | 3.75 | 3.75 |
| 6 | 6 | 25/Sep | 1 | 1000 год хрысьціянства на Беларусі Наддрукоўка на м. № 1 | 1 | 1 |
| B1A | 7 | 25/Sep | 5 | 1000 год хрысьціянства на Беларусі БЛОК, шматкаляровы | 3 | 1.5 |
| B1B | 7A | 25/Sep | 5 | 1000 год хрысьціянства на Беларусі БЛОК, шматкаляровы, без зубцоў | 5 | 4 |
| 8 | 8 | 15/Oct | 2 | Нясвіжскі замак Шматкаляровая | 0.8 | 0.5 |
| 9 | 12 | 15/Oct | 2 | Сабор Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра Шматкаляровая | 0.8 | 0.5 |
| 10 | 9 | 15/Oct | 2 | Барысаглебская (Каложская) царква Шматкаляровая | 0.8 | 0.5 |
| 11 | 13 | 15/Oct | 2 | Кальвінскі збор, Заслаўе Шматкаляровая | 0.8 | 0.5 |
| 12 | 10 | 15/Oct | 2 | Мірскі замак Шматкаляровая | 0.8 | 0.5 |
| 13 | 11 | 15/Oct | 2 | Камянецкая вежа Шматкаляровая | 0.8 | 0.5 |
| 14 | 14 | 10/Nov | 0.3 | стандарт - Герб "ПАГОНЯ" Сьветла-сіняя | 0.2 | 0.15 |
| 15 | 15 | 10/Nov | 0.45 | стандарт - Герб "ПАГОНЯ" Жоўта-аліўкавая | 0.3 | 0.15 |
| 16 | 16 | 10/Nov | 0.5 | стандарт - Герб "ПАГОНЯ" Зялёная | 0.3 | 0.2 |
| 17 | 27 | 21/Dec | 1 | Гарлач і міска Шматкаляровая | 1 | 0.45 |
| 18 | 30 | 21/Dec | 1 | Збан Шматкаляровая | 1 | 0.45 |
| | | | | 2 | | |
| 19 | 29 | 21/Dec | 1 | Збан і гаршчок | 1 | 0.45 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Шматкаляровая | | |
| 20 | 28 | 21/Dec | 1 | Збаны і гаршкі на калочку<br>Шматкаляровая | 1 | 0.45 |
| 21 | 17 | 1993 г.<br>04/Jan | 1 | стандарт - Герб “ПАГОНЯ”<br>Сьветла-карычневая | 0.35 | 0.15 |
| 22 | 18 | 04/Jan | 2 | стандарт - Герб “ПАГОНЯ”<br>Цёмна-карычневая | 0.7 | 0.35 |
| 23 | 19 | 04/Jan | 3 | стандарт - Герб “ПАГОНЯ”<br>Аранжавая | 1 | 0.5 |
| 24 | 21 | 04/Jan | 10 | стандарт - Герб “ПАГОНЯ”<br>Бледна-чырвоная | 3 | 1.5 |
| 25 | 20 | 09/Feb | 5 | стандарт - Герб “ПАГОНЯ”<br>Цёмна-сіняя | 0.65 | 0.3 |
| 26 | 22 | 09/Feb | 15 | стандарт - Герб “ПАГОНЯ”<br>Фіялетавая | 1.85 | 0.9 |
| 27 | 23 | 09/Feb | 25 | стандарт - Герб “ПАГОНЯ”<br>Зялёная | 3.1 | 1.5 |
| 28 | 31 | 22/Apr | 5 | Вырабы з саломкі - птушкі<br>Шматкаляровая | 0.1 | 0.1 |
| 29 | 32 | 22/Apr | 10 | Вырабы з саломкі - маці і дзіця<br>Шматкаляровая | 0.15 | 0.15 |
| 30 | 33 | 22/Apr | 15 | Вырабы з саломкі - беларуска<br>Шматкаляровая | 0.25 | 0.25 |
| 31 | 34 | 22/Apr | 25 | Вырабы з саломкі - касцы-палешукі<br>Шматкаляровая | 0.5 | 0.5 |
| 32 | 24 | 17/Jun | 50 | стандарт - Герб “ПАГОНЯ”<br>Ружова-чырвоная | 0.8 | 0.5 |
| 33 | 25 | 17/Jun | 100 | стандарт - Герб “ПАГОНЯ”<br>Аранжава-чырвоная | 1.6 | 0.8 |
| 34 | 26 | 17/Jun | 150 | стандарт - Герб “ПАГОНЯ”<br>Лілова-чырвоная | 2.4 | 1.2 |
| 35 | 35 | 21/Jun | 50 | М.І.Гарэцкі<br>Чырвона-кармінавая | 1 | 1 |
| | | | | 3 | | |
| 36 | 36 | 08/Jul | 50 | Першы з’езд беларусаў сьвету<br>Шматкаляровая | 2 | 2 |
| 37 | 52 | 11/Nov | 25 | Герб Менску<br>Шматкаляровая | 0.4 | 0.3 |
| 38 | 53 | 24/Nov | 150 | Касьцёл кармелітаў, Магілёў<br>Шматкаляровая | 2.4 | 2 |
| 39 | 55 | 03/Dec | 50 | К.Каліноўскі<br>Шматкаляровая | 0.8 | 0.8 |
| 40 | 56 | 31/Dec | 75 | Рагвалод<br>Шматкаляровая | 1.2 | 1.2 |
| 41 | 57 | 31/Dec | 75 | Рагнеда<br>Шматкаляровая | 1.2 | 1.2 |
| 42 | 54 | 31/Dec | 100 | Сымон Будны<br>Шматкаляровая | 2 | 2 |
| 43 | 58 | 1994 г.<br>19/Jan | 20 | Беркут<br>Шматкаляровая | 0.3 | 0.2 |
| 44 | 59 | 19/Jan | 40 | Зімародак<br>Шматкаляровая | 0.6 | 0.3 |
| 45 | 60 | 19/Jan | 40 | Лебедзь-шыпун<br>Шматкаляровая | 0.6 | 0.3 |
| | | | | №№ 43/5Z | 1.5 | 0.8 |
| 46 | 61 | 01/Feb | 15 | Герб “ПАГОНЯ”, наддрукоўка на ,045 (№14)<br>стандарт - Сьветла-сіняя | 0.4 | 0.4 |
| 47 | 62 | 01/Feb | 25 | Герб “ПАГОНЯ”, наддрукоўка на ,045 (№15)<br>стандарт - Жоўта-аліўкавая | 0.7 | 0.7 |
| 48 | 63 | 01/Feb | 50 | Герб “ПАГОНЯ”, наддрукоўка на ,045 (№16)<br>стандарт - Зялёная | 0.9 | 0.9 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 49 I | 41 | 09/Mar | 1500 | Сьцяг і карта Рэспублікі Беларусь, а/гульні Шматкаляровая, наддр. на №4, англ. | 7.5 | 7.5 |
| 49 II | 40 | 09/Mar | 1500 | Сьцяг і карта Рэспублікі Беларусь, а/гульні Шматкаляровая, наддр. на №4, бел. | 7.5 | 7.5 |
| 50 I | 43 | 09/Mar | 1500 | Герб "ПАГОНЯ", а/гульні Шматкаляровая, наддр. на №5, англ. | 7.5 | 7.5 |
| 50 II | 42 | 09/Mar | 1500 | Герб "ПАГОНЯ", а/гульні Шматкаляровая, наддр. на №5, бел. | 7.5 | 7.5 |
| | | | | 4 | | |
| B2 | 44 | 09/Mar | 1500 | 1000 год хрысьціянства на Беларусі, а/гульні БЛОК, шматкаляровы, наддр. на B1A, бел. | 10 | 10 |
| B2 | 44A | 09/Mar | 1500 | 1000 год хрысьціянства на Беларусі, а/гульні БЛОК, шматкаляровы, наддр. на B1B, бел. | 10 | 10 |
| B2 | 45 | 09/Mar | 1500 | 1000 год хрысьціянства на Беларусі, а/гульні БЛОК, шматкаляровы, наддр. на B1A, англ. | 10 | 10 |
| B2 | 45A | 09/Mar | 1500 | 1000 год хрысьціянства на Беларусі, а/гульні БЛОК, шматкаляровы, наддр. на B1B, англ. | 10 | 10 |
| 52 I | 47 | 09/Mar | 1500 | Сьцяг і карта Рэспублікі Беларусь, футбол Шматкаляровая, наддр. на №4, англ. | 7.5 | 7.5 |
| 52 II | 46 | 09/Mar | 1500 | Сьцяг і карта Рэспублікі Беларусь, футбол Шматкаляровая, наддр. на №4, бел. | 7.5 | 7.5 |
| 53 I | 49 | 09/Mar | 1500 | Герб "ПАГОНЯ", футбол Шматкаляровая, наддр. на №5, англ. | 7.5 | 7.5 |
| 53 II | 48 | 09/Mar | 1500 | Герб "ПАГОНЯ", футбол Шматкаляровая, наддр. на №5, бел. | 7.5 | 7.5 |
| B3 | 50 | 09/Mar | 1500 | 1000 год хрысьціянства на Беларусі, футбол БЛОК, шматкаляровы, наддр. на B1A, бел. | 10 | 10 |
| B3 | 50A | 09/Mar | 1500 | 1000 год хрысьціянства на Беларусі, футбол БЛОК, шматкаляровы, наддр. на B1B, бел. | 10 | 10 |
| B3 | 51 | 09/Mar | 1500 | 1000 год хрысьціянства на Беларусі, футбол БЛОК, шматкаляровы, наддр. на B1A, англ. | 10 | 10 |
| B3 | 51A | 09/Mar | 1500 | 1000 год хрысьціянства на Беларусі, футбол БЛОК, шматкаляровы, наддр. на B1B, англ. | 10 | 10 |
| 55 | 38 | 29/Mar | 1500 | М.Шагал, "Над Віцебскам" Шматкаляровая | 9 | 9 |
| 56 | 37 | 29/Mar | 1500 | М.Шагал, "Прагулка" Шматкаляровая | 9 | 9 |
| | | | | №№ 55/6 x 4 | 70 | 70 |
| B4 | 39 | 29/Mar | 2500 | М.Шагал Шматкаляровая | 75 | 75 |
| 58 | 64 | 03/Jul | 500 | 50 год вызвалення Расеі Шматкаляровая | 1.5 | 0.75 |
| 59 | 65 | 03/Jul | 500 | 50 год вызвалення Украіны Шматкаляровая | 1.5 | 0.75 |
| | | | | 5 | | |
| 60 | 66 | 03/Jul | 500 | 50 год вызвалення Беларусі Шматкаляровая | 1.5 | 0.75 |
| | | | | №№ 58/60Z | 5 | 2.5 |
| 61 | 68 | 08/Jul | 300 | Мастак Ф.Рушчыц Шматкаляровая | 0.5 | 0.5 |
| 62 | 69 | 08/Jul | 300 | Мастак Я.Драздовіч Шматкаляровая | 0.5 | 0.5 |
| 63 | 67 | 08/Jul | 300 | Мастак П.Сергіевіч Шматкаляровая | 0.5 | 0.5 |
| 64 | 74 | 30/Aug | 1000 | А/гульні ў Лілехамеры, хакей Шматкаляровая | 0.6 | 0.6 |
| 65 | 72 | 30/Aug | 1000 | А/гульні ў Лілехамеры, фігурнае катаннеі Шматкаляровая | 0.6 | 0.6 |
| 66 | 70 | 30/Aug | 1000 | А/гульні ў Лілехамеры, лыжныя гонкі Шматкаляровая | 0.6 | 0.6 |
| 67 | 71 | 30/Aug | 1000 | А/гульні ў Лілехамеры, біятлон | 0.6 | 0.6 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Шматкаляровая | | |
| 68 | 73 | 30/Aug | 1000 | А/гульні ў Лілехамеры, канькабежны сиорт<br>Шматкаляровая | 0.6 | 0.6 |
| 69 | 75 | 30/Sep | 300 | Беркут<br>Шматкаляровая | 0.15 | 0.15 |
| 70 | 76 | 30/Sep | 400 | Зімародак<br>Шматкаляровая | 0.2 | 0.2 |
| 71 | 77 | 30/Sep | 400 | Лебедзь-шыпун<br>Шматкаляровая | 0.2 | 0.2 |
| 72 | 78 | 10/Oct | 700 | Герб Гродно<br>Шматкаляровая | 0.35 | 0.25 |
| 73 | 79 | 10/Oct | 700 | Герб Віцебска<br>Шматкаляровая | 0.35 | 0.25 |
| 74 | 80 | 20/Oct | 700 | Царква-крэпасьць у Сынкавічах<br>Шматкаляровая | 0.35 | 0.35 |
| 75 | 81 | 20/Oct | 700 | Петрапаўлаўскі сабор у Гомелі<br>Шматкаляровая | 0.35 | 0.35 |
| 76 | 82 | 04/May | 1000 | Карціна І.Рэпіна "Беларус"<br>Шматкаляровая | 1.15 | 1.15 |
| 77 | 83 | 04/May | 1000 | Музэй-сядзіба І.Рэпіна у в.Здраўнева<br>Шматкаляровая | 1.15 | 1.15 |
| 78 | 84 | 28/Dec | 200 | стандарт - Герб "ПАГОНЯ"<br>цёмна-зялёная | 0.2 | 0.2 |
| | | | | 6 | | |
| 79 | 85 | 28/Dec | 300 | стандарт - Герб "ПАГОНЯ"<br>цёмна-ружовая | 0.35 | 0.35 |
| 80 | 86 | 28/Dec | 600 | стандарт - Герб "ПАГОНЯ"<br>ліловая | 0.65 | 0.65 |
| 81 | 87 | 28/Dec | 1000 | стандарт - Герб "ПАГОНЯ"<br>вішнёва-брунатная | 1.1 | 1.1 |
| 82 | 88 | 28/Dec | 3000 | стандарт - Герб "ПАГОНЯ"<br>шэра-зялёная | 3.25 | 3.25 |
| 83 | 91 | 11/Jan | 600 | Т.Ваўжэцкі<br>Шматкаляровая | 0.65 | 0.65 |
| 84 | 90 | 11/Jan | 600 | Я.Ясінскі<br>Шматкаляровая | 0.65 | 0.65 |
| 85 | 89 | 11/Jan | 1000 | Т.Касьцюшка<br>Шматкаляровая | 1.1 | 1.1 |
| 86 | 92 | 11/Jan | 1000 | М.Агіньскі<br>Шматкаляровая | 1.1 | 1.1 |
| 87 | 93 | 04/May | 180 | Манумэнт Перамогі<br>Шматкаляровая | 0.15 | 0.15 |
| 88 | 94 | 04/May | 600 | Манумэнт Перамогі<br>Шматкаляровая | 0.5 | 0.5 |
| 89 | 96 | 07/May | 600 | А.Папоў<br>Шматкаляровая | 0.5 | 0.5 |
| 90 | 95 | 10/May | 180 | Стандарт - Пляц Перамогі<br>чырвона-аліўкавая, ружовая | 0.15 | 0.15 |
| 91 | 98 | 10/May | 280 | Стандарт - Пляц Перамогі<br>зялёная, сіняя | 0.25 | 0.25 |
| 92 | 97 | 15/May | 600 | І.Чэрскі<br>Шматкаляровая | 0.5 | 0.5 |
| 93 | 99 | 13/Jul | 180 | Мотальскі строй<br>Шматкаляровая | 0.2 | 0.2 |
| 94 | 100 | 13/Jul | 600 | Ваўкавыска-камянецкі строй<br>Шматкаляровая | 0.6 | 0.6 |
| 95 | 101 | 13/Jul | 1200 | Пухавіцкі строй<br>Шматкаляровая | 1.2 | 1.2 |
| 96 | 102 | 20/Jul | 300 | Бабёр | 0.3 | 0.3 |

# КАРОТКІ АГЛЯД НУМІЗМАТЫЧНАГА РЫНКУ.

Апошнім часам адбыўся ўсплеск цікавасці да манетаў, забяспечваўшых грашовае абарачэнне на беларускіх землях ад пачатку ўжывання грошай да моманту падзела Рэчы Паспалітай. У сувязі з гэтым "Беларускі калекцыянер" прапануе агляд нумізматычнага рынку Мінска і іншых месцаў, дзе ўдалося пабываць на працягу бягучага года.

Трэба адзначыць, што мэта агляду – расказаць, якія манеты прадаваліся апошнім часам і даць цэны на іх. Дзеля нагляднасці і зручнасці выкарыстаем найбольш распаўсюджанае выданне кнігі В.Н.Рабцэвіча "Аб чым распавядаюць манеты" (Мн., Народная асвета, 1977г.)

Пачнем з рымскіх дынарыяў. Сярэднія кошты на распаўсюджаныя дэнарыі 15-20$. Са змешчаных у табл.1 (стар.231) трапіліся наступныя: №6 у выдатным стане – 40$, №7 – 18$, №9 – 15$, №10 – 15$. Усе яны прадаваліся ў С.-Пецярбурзе. У Менску ўзровень цэнаў прыблізна такі самы, але прапановы меней.

З арабскіх дырхемаў (табл.2) былі ў продажы: №2 за 10$ – С.-Пецярбург, №№5,6 – па 8$ Менск.

Манеты Візантыі сустракаюцца ў Менску ад 2$ за дробныя да 5-10$ і вышэй за буйныя медныя наміналы – фолісы. За срэбныя міліарысіі трэба выкласці 30-50$. Са змешчаных у табл.6 патрапіліся №6 за 5$ у С.-Пецярурзе.

Пражскі грош (табл.8 №4) у добрым стане каштуе 10-15$, але часцей трапляецца вельмі зацёрты – 2$.

З манетаў ВКЛ найчасцей сустракаюцца паўгрошы. табл.9 №2 і №3 прадаваліся за 3-5$, №8 і №9 за 5-8$. Значная разбежка ў цэнах тлумачыцца розніцай у захаваннасці манетаў. За дэнарый №1 просяць 10-15$, №6 – 5-8$. Падвоены дэнарый №7 каштуе 9-12$.

Грош №4 (табл.9) і №5 сустракаюцца рэдка. У кепскім выглядзе №4 можна набыць у Менску за 15$. У значна лепшым стане абодва гроша каштавалі ў Сімферопалі па 35$.

З другіх манетаў ВКЛ прадаваліся ў Менску: табл.10 №4 – 20$, №7 – 30-35$.

За манеты Кароны Польскай (табл.12) №1 і №2 прасілі 10-12$, №7 і №8 па 4-5$. А з ліку змешчаных у табл.13 №1 трапляецца па 12-15$, а №4 і №5 па 15$. Грош (табл.13 №6) з вельмі значнай хібай (быў сагнуты папалам) прадаваўся ў Сімферопалі за 30$.

З манетаў Рэчы Паспалітай прыносілі на продаж у Менску: траякі Баторыя літоўскай чэканкі табл.14 №6 па 20-25$, траякі для Польшчы табл.16 №1 – 25-30$, траякі рыжскія табл. 17 №8 – 20$. Дробная манета табл.18 №4-6 па 5$, №№10,11 па 8-10$.

Траякі Жыгімонта, пазначаныя у табліцах 19,20 і 22,23 у сярэднім каштуюць 10-15$. Праўда траякі чэканкі 1621, 1622 гадоў можна набыць значна танней – за 6-8$.

Тэрмарый (патроены дэнарый) табл.г.Лабжэніцы табл.20№6, значна пашкоджаны, прадаваўся за 5$. Вельмі распаўсюджаныя паўтаракі табл.22 №№1,2 ідуць звычайна за 1,5-2$. Шастак табл.24 №8 сустракаецца ад 10-12$ да 15$.

Талеры Рэчы Паспалітай бываюць у продажы рэдка. У жніўні 1997 года у Менску можна было набыць талер Жыгімонта (табл.25 №2) у добрым стане за 300$. Талер Уладзіслава (табл.27 №1), нягледзячы на моцна зацёрты партрэт, каштаваў у Сімферопалі 200$.

Найбольш распаўсюджаныя і танныя манеты па беларускай тэматыцы, так званыя "баратынкі" (табл.27 №№3,6), каштуюць усяго 1$. Соліды (табл.26 №№1,2) сустракаюцца за 4-5$, а №3 за 3-4$.

Кошт тымфа (табл.28 №№2,3) – 4-5$, у добрым стане – 10$. Шастакі (табл.29 №№2,3) сустракаліся за 5-6$, а орт Аўгуста (табл.31 №1) у залежнасці ад якасці ад 10 да 20$.

Цяпер паглядзім як каштуе на нумізматычным рынку Менска замежная манета.

Вугорскія дэнарыі (табл.33 №1, №3) каштуюць 3-5$. Чвэрць патагона (табл.34 №1) – 15$, а патагон №3 – 25$. Галянцкія талеры (табл.35 №2) звычайна каштуюць 30-35$. Тое ж і талеры (табл.37 №№2,3)



Таксама сустракаліся (табл.44 №№1,2) па 40$, (табл.47 №№1-3) – 80-130$.

За дацкі аднамарачнік (табл.38 №3) просяць 50-60$, а за гішпанскія 8 рэалаў (№4) – 30$.

Шатланцкі торнэр №6 з выяваю чартапалоха прадаваўся ў Менску за 5$, праўда меў моцна пашкоджаны рэверс. Манеты Брандэбурга (табл.52 №2) у добрам стане каштуе 30$, а №1 – ад 3$.

З прускіх манетаў (табл.51) былі ў продажы: №3 за 15$, №№6-8 па 4-5$, орты (табл.52 №3 і №5) – 15-20$.

Манеты Лівонскага ордэна (табл.53 №№3-8) сустракаюцца зрэдку па 7-10$. Білонавая манета Рыгі танная: (табл.58) №5 – 2, №6 і №8 па 1$, драйнёлькеры №№№2,7,9 – 4-6$.

З усходніх манетаў адзначым "Ефимок с признаком", за які ў С.-Пяцярбургу прасілі "усяго" 1000$.

Напрыканцы адзначым высветленыя тэндэнцыі. На дробную і распаўсюджаную манету кошты ў апошнія два гады стабільныя. Што да рэдкай і буйной, пачынаючы з траякоў, дык кошты на яе паступова растуць. Гэтаму ёсць шмат чыннікаў, але галоўны, безумоўна, вываз нумізматычных калекцый і асобных манетаў за межы Беларусі, галоўным чынам у Маскву, С.-Пяцярбург, Вільню, дзе іх можна прадаць даражэй.

**Агляд выканаў Ігар Матавілаў.**

**Газета Беларускі Калекцыянер**
**Год заснавання 1990**
**Рэдактар Алесь Сярожкін**
**Вёрстка Алег Граблеўскі**

**Пры передруку спасылацца на "Беларускі Калекцыянер". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае й не рэцэнзуе. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў**

**Адрас для допісаў: 211030, Орша 10, п/с140 Беларусь.**
**Наклад 299 асобн.**